


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 2 (227) СТУДЗЕНЬ 2017 ГОДА


**БЕЛАРУСКАЯ ПРЫМАЎКА**

**Да аглобляў коськаюць, а ў аглоблях пугі даюць**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## У ГАРАДКУ ВЫРАШЫЛІ НЕ ПРЫМАЦЬ МАЛАКО

**Сёння шмат пішуць і гавораць аб падтрымцы сялян, і тым не менш з кожным годам паўсюдна становіцца ўсё менш вяскоўцаў, якія трымаюць падсобную гаспадарку. У асноўным старэйшае пакаленне, загартаванае вясковым цяжкасцю, жыве па старым ўкладу. І для нас — гэта не толькі лад жыцця, але лішняя капейка ў сямейны бюджэт. Ды і дзецям дапамагчы хочацца.**

Заробкі ў сельскіх працаўнікоў — невялікія, і без сваёй гаспадаркі даводзіцца няпроста зводзіць канцы з канцамі. Асноўны прыбытак для многіх — здача дзяржаве малака. Гэтая сістэма ў нас у вёсцы наладжана добра, гаспадароў падворкаў абслугоўвае выдатны малаказборшчык Ганна Галубцова і дастаўляе прадукцыю ў вытворчы цэх ААТ «Малако» ў Гарадку.

Аднак нядаўна адміністрацыя прадпрыемства паставіла нашага малаказборшчыка перад фактам, што малако ад насельніцтва з лютага прымаць не будуць. Навіна зрынула нас ўсіх у шок. У сяредднім па нашай зоне за месяц здаецца да 30 тон малака, а ўсяго па раёне вяскоўцаў абслугоўваюць 3 прадпрымальніка, якія адвозяць яго ў Гарадоцкі вытворчы цэх. Дастаўляць малако іншаму перапрацоўшчыку ў вобласці, напрыклад, у Лепель, — нерэальна. Гэта больш за 200 кіламетраў, а малако — прадукт, які хутка псуецца. Атрымліваецца, што і людзі застануцца без працы. і тыя, хто яшчэ трымае буренок, — без даходу ад сваёй працы. І калі ніхто не дапаможа знайсці выхад у сітуацыі, якая склалася, прыйдзецца здаць нашых карміцелек на бойню. Адкуль чакаць падтрымкі сельскім жыхарам? Можа, газета дапаможа разабрацца?

**Таццяна Іванова**
**Гарадоцкі раён**
**http://www.vitbichi.by**

ТАКАЯ ПРАБЛЕМА

## 170 КМ В ОДНУ СТОРОНУ

**Молоко из Городка приходится возить на переработку через всю область. А чиновники никак не решат проблему.**

Что делать с молоком? Это вопрос, который сегодня задают жители всего Городокского района. С 1 февраля сырье больше не будет принимать местный цех. Людям предлагают возить молоко в Лепель и Глубокое, а это 170 км в одну сторону, и ни один предприниматель, который молоко собирает, так далеко

Местные власти уверяют предпринимателей, которые собирают у людей молоко, что дальше Городка им ездить не придется. За доставку продукции будут отвечать сами переработчики: будет приезжать машина и отвозить сырье на молокозавод.

Десятилетиями молоко, которое собирали на территории Городокского района, принимали в производственном цеху райцентра. Но в 2016 году крупные сельхозпроизводители перестали поставлять сюда продукцию, а с 1 февраля не будет здесь молока и от населения. Чтобы заполнить производственную линию, уже сейчас вынуждены ежедневно 12 тонн молока завозить из соседнего Витебского района.

Дело в том, что в области создали агрохолдинги, и сырьевые зоны перераспределили. Теперь «молочные реки» из Городка, Шумилино, Лиозно текут не в соседний Витебск, а через всю область: в Верхнедвинск, Глубокое и Лепель. А витебское предприятие завозит сырье из Дубровно и Докшиц. Таким образом к 2020 году хотят максимально загрузить мощности переработчиков сельхозпродукции.

Чтобы ускорить доставку сырья, витебский завод приобретает 8 молоковозов. А в 25 км от областного центра, в Городке, ждут машину из Лепеля и опасаются: как бы не пришлось скармливать излишки молока скоту. Договор со сборщиками сырья у населения новый покупатель до сих пор не заключил.

**https://news.tut.by**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

АЛІМПІЯДНЫ РУХ

## ВУЧНІ З ГАРАДКА АТРЫМАЛІ СЕМ ДЫПЛОМАЎ

**На трэццім этапе рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах Гарадоччыну прадстаўляла 16 вучняў. Вучні СШ№ 1 і СШ № 2 г. Гарадка заваявалі наступныя дыпломы: першай ступені — 1, другой — 2, трэццяй — 4.**

Поспех вучняў на алімпіядзе гэта звычайна ў значнай меры і заслуга іх настаўніка. На абласным этапе два дыплома атрымалі вучні настаўніцы геаграфіі з СШ № 1 Таццяны Баранавай: дыплом ІІ ступені — Фядотава Лаліта ( 11 кл.), дыплом ІІІ ступені — Хрытанькова Настасся ( 10 кл.). Настаўніца біялогіі СШ № 1 Наталля Грыбалёва зноў задаволена дыпломам І ступені Юліі Талкачовай ( 10 кл.), якая ў мінулым годзе заваявалі першае месца і на рэспубліканскім туры алімпіяды. Петрычкіў Уладзімір вучань 10 кл. з СШ№ 2 атрымаў дыплом ІІ ступені па геаграфіі, а вучыць яго Навумёнак Ларыса.

Дыпломы трэццяй ступені атрымалі: па матэматыцы Каваленка Аляксей вучань 11 кл. з СШ № 1 ( настаўніца — Шавель Наталля), па біялогіі вучань 10 кл. з СШ№ 2 Ладохін Аляксей ( настаўніца — Ласкіна Таццяна), па беларускай мове вучаніца 9 кл. з СШ№ 1 Леўчанка Юлія ( настаўніца — Салевіч Ірына).

Усяго ў абласным этапе рэспубліканскай алімпіяды прыняла ўдзел больш тысячы вучняў Віцебшчыны, якім было ўрачана дыпломаў І ступені — 87, ІІ ступені — 138 і ІІІ ступені — 241. Пераможцамі сярод аддзелаў адукацыі сталі вучні з Першамайскага раёна г. Віцебску, далей каманды Кастрычніцкага раёна, Чыгуначнага раёна г. Віцебска, на 4 месце з Полацкага раёна, на 5-м — з Глыбоцкага раёна.

На вясенніх канікулах лепшыя удзельнікі абласнога этапу будуць змагацца за перамогу на усебеларускім этапе алімпіяды.

**Л. Антонаў**

ПАЖАР

## ВЫРАТАВАНА ДВА ЧАЛАВЕКА І 6 ЭВАКУІРАВАНА

**Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС 24 студзеня ў Гарадку адбыўся пажар у адным з пакояў трохкомнатнай кватэры двухпавярховага дома па вул. Вакзальная. Работнікі Гарадоцкага аддзела МНС выратавалі гаспадыню кватэры і яе сына.**

24 студзеня 13.01 ў Гарадоцкі аддзел МНС паступіла паведамленне аб пажары ў кватэры ў Гарадку. У выніку пажару ў пакоі 4×5 м трохпакаёвай кватэры знішчаныя пасцельныя прыналежнасці, закураны сцены, столь. 3 кватэры работнікамі МНС выратаваны 66-гадовая гаспадыня кватэры і яе сын 1970 г. н, які не працуе. Жыхароў кватэры выратавальнікі знайшлі ў калідоры на падлозе і вывелі ў выратавальных масках. Пасля агляду медыкамі пацярпелыя ад гаспіталізацыі адмовіліся.

3 суседніх кватэр варатавальнікамі эвакуіраваны 6 чалавек. Пацярпелых няма. Прычына пажару высвятляецца, але найбольш рэальнай версіяй з'яўляецца версія аб ўзнікненні пажару ў выніку паленні сына гаспадыні ў нецвярозым стане.

**Т. Гаражанка**

СВЕТ ЗАХАПЛЕННЯЎ

## ВЫСТАВА ТЭХНІЧНАЙ ТВОРЧАСЦІ Ў КАЛЕДЖЫ

**З 25 студзеня па 17 лютага 2017 года ў Гарадоцкім аграрна-тэхнічным каледжы праходзіць першы этап агляду тэхнічнай і дэкаратыўна — прыкладной творчасці навучэнцаў і работнікаў каледжа.**

Гэты агляд праводзіцца штогод з мэтай выяўлення і падтрымкі таленавітай моладзі, далучэння вучняў і супрацоўнікаў каледжа да творчай дзейнасці. Работы, прадстаўленыя на агляд, адлюстроўваюць розныя напрамкі вольнага часу навучэнцаў, супрацоўнікаў і выкладчыкаў, выкананыя ў розных тэхніках дэкаратыўна-прыкладнай творчасці.

Самыя цікавыя і яркія работы будуць накіраваны для ўдзелу ў другім этапе абласнога злёту тэхнічнай і дэкаратыўна-прыкладнай творчасці навучэнцаў і работнікаў устаноў прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Актыўны ўдзел у прадастаўленні экспанатаў прымаюць: Галынская Р.А., Сіманковіч В.П., Смірноў А.А., Бендзікаў А.М., Петухоў В.У., Філіпаў А.В.

**Паводле інфармацыі**
**http://ggatk.by**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

АДУКАЦЫЯ

# АДБЫЛАСЯ РЭАРГАНІЗАЦЫЯ ГАРАДОЦКІХ КАЛЕДЖАЎ

**1 студзеня адбылася рэарганізацыя двух гарадоцкіх сярэдне-спецыяльных навучальных устаноў шляхам зліцця ў адзін. За ім захавана назва УА «Гарадоцкі дзяржаўны аграрна-тэхнічны каледж». Яго ўзначаліў Уладзімір Уладзіміравіч Шыцько.**

У склад адміністрацыі таксама ўвайшлі: Дзмітрый Юр'евіч Федарэнка, намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце; Валянціна Мікалаеўна Палянічка, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце; Дзмітрый Уладзіміравіч Шляхто, намеснік дырэктара па вучэбна-метадычнай рабоце; Юрый Анатольевіч Сарачынскі, намеснік дырэктара па вучэбна-вытворчай рабоце; Сяргей Рамановіч Маляўскі, намеснік дырэктара па вытворчаму навучанню; Сяргей Мікалаевіч Віхаценка, намеснік дырэктара па гаспадарчай рабоце.

— Мы пастараліся забяспечыць працоўнымі месцамі ўсіх, хто хацеў працягваць працу ў аб'яднаным каледжы, — падкрэсліў У.У. Шыцько. — У выніку нас пакінулі толькі сем чалавек. Маем намер працягваць навучальны працэс і ўсё, што з ім звязана, у спакойным рэжыме. Асноўным крытэрыем ацэнкі працы выкладчыкаў, майстроў вытворчага навучання, тэхнічных работнікаў застаецца яе эфектыўнасць.

Словы падзякі за шматгадовую плённую працу прагучалі ў адрас былога дырэктара ГГПТКСП ім. І.В. Дарошчанка Віктара Аркадзьевіча Папова. Уладзімір Уладзіміравіч таксама адзначыў годную матэрыяльна-тэхнічную ба-зу далучаемага каледжа, працаздольнасць і згуртаванасць калектываў, якія аб'ядноўваюцца, паабяцаў захаваць і прымножыць лепшыя традыцыі, якія склаліся ў іх.

**Святлана Якаўлева**
**http://www.garadvest.by**

КРЫМІНАЛ

# ПОДЖЕГ МАШИНУ ОТЦА ДЕВУШКИ

**Молодого парня из Городка подозревают в поджоге автомобиля, который принадлежит отцу его знакомой девушки. Об этом AUTO.TUT.BY сообщила официальный представитель управления Следственного комитета по области Светлана Сахарова.**

Городокский районный отдел СК расследует уголовное дело по ч. 2 ст. 218 (Умышленное повреждение имущества, совершенное общеопасным способом, повлекшее причинение ущерба в крупном размере) по факту поджога автомобиля MAZDA CX7. Это произошло рано утром 10 января.

Автомобиль, принадлежащий местному жителю, стоял во дворе одного из домов в Городке. В поджоге правоохранители подозревают 21-летнего парня. Выяснилось, что ночью он ездил на автомобиле матери в нетрезвом состоянии. По данным следствия, тогда же у него созрел план: подожечь автомобиль отца знакомой девушки. Поводом для этого стал запрет отца встречаться с его дочерью.

В итоге, молодой человек заехал на заправку, отлил в бутылку горючего. А утром осуществил свой план — вылил бензин на крышу Mazda CX-7, поджег машину и ушел. Владельцу автомобиля — 42-летнему местному жителю — причинен ущерб на сумму более 6 тысяч рублей.

Следователи назначили комплексную пожарно-техническую и химическую экспертизы, допросили потерпевшего, проверяют мотив преступления, устанавливают свидетелей и очевидцев. У подозреваемого взяли обязательство о явке.

**https://auto.tut.byl**

НЕРУХОМАСЦЬ ЧЫНОЎНІКА

# ЗДАЦЬ У АРЭНДУ КАТЭДЖ — ПА $4500 НА МЕСЯЦ

**Экс-кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова зноў спрабуе здаць у арэнду катэдж на Смарагдавым завулку ў Драздах. Праўда, праз крызіс яе апетыты паменшалі.**

Паўтара года таму Ермакова скінула цану з $7500 да $6000. Цяпер яна гатовая здаць элітную нерухомасць за $4500.

Нагадаем, гэты ўчастак памерам 15 сотак быў выдзелены Надзеі Ермаковай яшчэ ў сярэдзіне 2000-х. Пазней гэты дом быў перапісаны на старэйшую дачку Наталлю Чэпікаву.

Сама Ермакова пасля атрымала яшчэ адзін участак, на першай берагавой лініі ў «Драздах-2».

А стары дом спрабуе здаць, пакуль што марна.

Што ўяўляе з сябе катэдж Ермаковай?

На 15 сотках у гаспадароў гэтага дома знаходзіцца невялікі ставок з прэснай вадой з дарожкай, брукаванай каменем, зона для барбекю з печчу-камінам і ляжанкай.

Побач з зонай для адпачынку разбіты агарод з высокімі парасонамі кропу і іншай зелянінай, якую цяперашнія гаспадынькі вырошчваюць, «каб да стала была свая зяляніна». Тут жа пасаджаны малады фруктовы садок.

У аб'яве ўказана, што катэдж двухузроўневы, плошчай 336 квадратных метраў. Адзін з шасці пакояў адведзены пад гасцёўню з камінам і канапавай зонай.

Над тэлевізарам на паліцы стаіць вясельнае фота адной з дачок, акуратна расстаўленая калекцыя лялек — такіх параўнальна нядаўна прадавалі ў шапіках «Белсаюздруку». Трохі вышэй стаяць фігуркі сланоў і вярблюдаў.

На сцяне, там, дзе ў дзяржструктурах звычайна вешаюць іншы партрэт, тут, дома — здымак Мэрылін Манро.

Мяркуючы па акне ў столі, спальня знаходзіцца на другім паверсе. Тут усё сціпла.

Як мяркуецца, на другім паверсе знаходзяцца і два дзіцячыя пакоі.

**"Наша Ніва"**

# КРАДЗЁЖ З БОЙНІ ГАРАДОЦКАГА РАЙПО

**Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МУС у Гарадоцкі РАУС паведамілі аб крадзяжы амаль на тысячу рублёў**

12 студзеня ў 11 гадзін 55 хвілін у Гарадоцкі РАУС звярнуўся працоўны 1972 года нараджэння. Грамадзянін паведаміў, што ў перыяд з 6 па 12 студзеня неўсталяваны злачынца трапіў у цэх, які знаходзіцца на рэканструкцыі, і здзейсніў крадзеж яго зварачнага апарата і мыйкі высокага ціску, якая належыць Гарадоцкаму райпо. Крадзёж адбыўся з бойні арганізацыі праз псаванне дзвярэй і вакон будынка.

Агульная шкода ацэнена ў 947 рублёў. Гарадоцкім аддзелам Следчага камітэту ўзбуджана крымінальная справа па ч. 1 арт. 205 КК.

**Т. Гаражанка**

НАШ БІЗНЕС

# 7 ВОСТРЫХ ЦЫТАТ БІЗНЭСОЎЦА

**25 студзеня быў затрыманы беларускі бізнэсовец Аляксандар Кныровіч. У КДБ сцвярджаюць, што кампанія Кныровіча «СарматТэрма-Інжэнірынг» ухілялася ад выплаты падаткаў.**

Паводле КДБ гаворка ідзе пра суму ня менш як 2,8 млн рублёў. Аляксандар Кныровіч быў не толькі паспяховым бізнэсоўцам, але і блогерам, вядучым уласнай тэлеперадачы.

**1. Крытыкаваў эканамічную сыстэму Беларусі**

«Сёння мы знаходзімся ў самай нізкай і складанай кропцы эканомікі за ўсе 25 гадоў развіцця незалежнай Беларусі. Узровень ВУП у Беларусі 4900 даляраў на чалавека. Гэта нашмат больш, чым на пачатку 1990-х. Але ў Польшчы і Вугоршчыне гэтая лічба ў два разы большая. Альбо маленькая Эстонія, дзе гэты паказнік амаль у 4 больш. Сярэдні заробак беларуса — 350 даляраў, а кітайца — 750. Добры дзень, прыехалі».

**2. Назваў падаткі на дармаедства дыягназам дзяржапарату**

«З трох маіх знаёмых, хто атрымаў „лісты шчасця", два даўно і актыўна працуюць за мяжой, там плацяць падаткі, і ніякага дачынення да „выгад" Беларусі не маюць... Трэцяя — мая былая жонка, якая атрымоўвае грошы ў адпаведнасці з афіцыйнай дамовай (пры разводзе), з якой выплачаны ўсе падаткі... Час прызнацца, што няма і не было ніякіх за 400 000 гультаёў. Што гэтая гісторыя — дыягназ дзяржапарату... Кіраваная і кантралюемая рэспубліка — ілюзія...»

**3. Ленін — маньяк, а камуністы — самая агрэсіўная партыя**

«Самая агрэсіўная партыя, самыя беспрынцыповыя фанатыкі, з самымі папулісцкімі лозунгамі. І іх лідэр — Уладзімір Ленін. Вельмі працаздольны і моцны інтэлектам маньяк, які жадаў правесці эксперымэнт над велізарнай краінай. Хлопец паставіў сабе мэту ў 25 гадоў і потым 22 гады ішоў да яе. Не было ў яго больш нічога ў жыцці акрамя жадання разваліць сістэму. Няма (у савецкі час) ніводнага прадмету для гонару, дасягненне якога было б абумоўлена менавіта сацыялізмам. Людзі вядома жылі, і працавалі — вынаходзілі, стваралі, тварылі... кахалі, нараджалі і спявалі песні. Але людзі займаюцца гэтым у любых умовах, нават у канцлагеры».

**4. Раіў змяніць дзяржаўны сцяг і гімн на песню Мулявіна**

«Наш сённяшні чырвона-зялёны сцяг наўпрост выказвае наша ж імкненне „назад у БССР". Але і бел-чырвона-белае палотнішча для іншай, таксама вельмі істотнай часткі насельніцтва, выказвае цяпер не імкненне да Волі, не слаўныя часы гісторыі ВКЛ ці нядоўгае жыццё нашай БНР узору 1918 году, а разруху і бардак перыяду перабудовы, галечу і безуладдзе... Дык можа быць не варта чапляцца за мінулае? Можа мэта ў прымірэнні з усімі эпізодамі нашага багатага мінулага і варта накіраваць намаганні на ўсведамленне зноўку сябе сённяшніх, беларусаў XXI стагоддзя? Дарэчы, і наконт гімна можна што-небудзь у Мулявіна пашукаць».

**5. Крытыкаваў міф пра Вялікую Айчынную Вайну**

«Мой дзед нарадзіўся на тэрыторыі Польшчы (Заходняй Беларусі). Саветы прыйшлі ў верасні 1939 году і прынесьлі з сабой усе радасці савецкага жыцця — перасьлед кулакоў, забарону найму рабочай сілы, абмежаванне надзелаў, пошукі ўнутраных ворагаў. Па якой прычыне ўсе гэтыя грамадзяне, а гэта амаль 40% насельніцтва БССР, павінны былі ўжо праз 20 месяцаў хацець пакласьці сваё жыццё за новую Радзіму, якая вельмі дрэнна да іх паставілася? Міф сфармаваны, замацаваны, усталяваны на пастамент і прыняты насельніцтвам. Наша мінулае — гэта не казка для дашкольнага ўзросту. У ёй, як і ў мінулым любой краіны, шмат супярэчлівых падзей, пэрсон. Спроба ж зрабіць зь яе постсавецкі гераічны глянец, толькі ъбядняюць нас саміх, сённяшніх».

**6. Заклікаў пазбаўляцца нацыянальных комплексаў**

«Мяне не злуе, калі „дарагія расіяне"называюць нашу краіну — Беларуссія. Не турбуе зусім. Іх справа. Могуць называць як заўгодна — хоць Паўночна-Заходні край або Бульбалэнд. Як і з любым чалавечым комплексам — знешнія пацверджанні не вырашаюць зусім нічога, не адыгрываюць ролі. Гэта — ілюзіі.

Адчуванне ўласнай самасці, асобнага існавання павінна вырасці ўнутры. І яно расце. З вышыванкай на форме і перамогай Улада Ганчарова на Алімпіядзе, з кожным дакладным стрэлам Дар'і Домрачавай, з сусветным поспехам „танчыкаў" і „маскараду" і яшчэ тысячай больш дробных, але каштоўных нашых дасягненняў. Таму прапаную пакінуць у спакоі дарагіх нашых усходніх „братоў" з іх Беларуссіяй. У іх гэта з часам пройдзе. Бог з імі».

**7. Захапляўся Святланай Алексіевіч**

«Унутрана адкрытая, свабодная, якая стварае адчуванне ўпэўненасці ў сабе, сваёй справе, у правільнасці абранага вугла зроку. Не саромелася называць чорнае — чорным, а шэрае — шэрым. Дэсакралізуе ўладу, любую ўладу. Адстойвае цвярозы погляд як на мінулае, так і на сучаснасць і будучыню. Яна застаецца тым, кім і была заўсёды — вельмі таленавітым кампілятарам гісторый, пісьменнікам-рэалістам, якае калупае нашае сумленне, якая нагадвае пра не адмоленыя грахі краіны, застарэлыя хваробы, і не больш. Але месца маральнага Лідэра, Месіі па-ранейшаму пустуе. Чакаем».

**Паводле Радыё Свабода**

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЕНКО ПОТЕРЯЛ НЮХ?

**В чем просчитался глава государства в борьбе с «иждивенцами». Поразительно, насколько непрагматично повел себя в ней Александр Лукашенко. Наверное, в теории, которую ему представили, все выглядело достаточно неплохо. Действительно, почему бы не собрать деньги с тех, кто не платит налоги, а пользуется социалкой?**

На практике же глава Беларуси настроил против себя существенную часть общества, а новых сторонников вряд ли приобрел. К алкоголикам и бичам приравняли, к примеру, домохозяек (исключение сделали для тех, у кого дети до 7 лет). Этому удивились даже на государственном телевидении.

Лукашенко вполне мог сохранить лицо, если бы «отмотал» свое решение. Подобный фокус он не раз проделывал прежде — вспомним хотя бы «откручивание» цен на продукты и бензин. Удивительно, что в этот раз глава государства не прочувствовал момент, и сделал еще хуже. Согласно недавним изменениям заставят платить налог и тех домохозяек, чьи дети с 3 до 7 лет получают дошкольное образование.

Впечатляет и цена вопроса, из-за которой руководитель страны устроил всю эту возню. К примеру, повышение пенсионного возраста многим может не нравиться, но в том, что этот выгодно для государства, сомневаться не приходится. А вот что касается «тунеядцев»...

По последним данным им направлено 400 тысяч извещений на уплату сбора. Сделаем смелый прогноз — налог оплатит половина. В этом случае в бюджет поступит около 40 млн долларов. Это много или мало? Предоставим слово самому Александру Лукашенко.

Говоря о том, во сколько обойдется проведение Европейских игр, он отметил: «Нам надо будет затратить где-то под 50 миллионов долларов за эти годы. Это слезы для страны».

Но и более крупные суммы государство не впечатляют. В декабре Лукашенко заявил, что за год резиденты СЭЗ перечислили в бюджет «несчастных» 200 млн долларов. К слову, ВВП страны составляет около 50 млрд. долларов.

Наконец, давайте вспомним 2011 год. Тогда страна жила в условиях девальвации и валютного кризиса. Но глава государства не стал дальше обдирать людей, а наоборот распорядился осенью выдать бюджетникам и неработающим пенсионерам по 500 тысяч рублей — «на овощи». Заявлялось, что для этой единовременного подарка государство выделило 1,7 триллиона рублей.

Согласно тогдашнему курсу этот составляло около 300 млн долларов. То есть в несколько раз больше, чем теперь власти пытаются выбить с «тунеядцев».

Большая загадка, что же произошло с Лукашенко за время, прошедшее с тех пор. Он сегодняшний все меньше похож на того человека, который раньше нутром чувствовал, как заработать очки в глазах электората. Вместо этого — непродуманные радикальные решения и упорство — достойное лучшего применения.

И, пожалуй, уже сейчас можно назвать главный итог еще продолжающейся борьбы с «иждивенчеством». Вне зависимости от того, чем она закончится, глава Беларуси вряд ли сможет восстановить свои репутационные потери.

**Руслан Горбачев**
**http://gazetaby.com**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# «МАТРЫЦА ЗАДАЧ» ЯК АПОШНІ ДОВАД

**Студзень — час фантазаваць на тэму бліжэйшых перспектыў беларускай мадэлі. 2017 год — юбілейны! Юбілей дзвюх рэвалюцый. На думку АП, «беларусы свой рэсурс рэвалюцый вычарпалі». Але тут ёсць з чым паспрачацца.**

На першы погляд, паміж мінулым, сучаснасцю і будучыняй існуе лінейная сувязь. Але гэта побытавае ўяўленне. На мяжы IV–V стагоддзяў нашай эры жыў хрысціянскі багаслоў Блажэнны Аўгустын. Ён адмаўляў мінуламу і будучыні ў праве на існаванне, мяркуючы, што ёсць толькі тры віды гэтага: мінулае сучаснасці, цяперашчына сучаснасці і будучыня сучаснасці.

Зразумець гэта даволі проста. Што азначае для кожнага з нас мінулае? Толькі тое, што мы думаем пра яго ў рэжыме тут і цяпер. Напрыклад, на думку галоўнага героя «азбук паліталогіі», 25 гадоў таму ён быў адзіным дэпутатам, які прагаласаваў супраць Белавежскага пагаднення. Але асабіста для мяне і для ўсіх, хто меў магчымасць трымаць у руках пратакол гістарычнага галасавання, такога мінулага ніколі не існавала.

Мінулае, сучаснасць і будучыня ў кожнага свае, і разгортваецца гэта тройца аднachасова. Таму любая спроба прагнозу ўпіраецца ў разуменне сучаснасці, з якой, як стрэлы з цыбуліны, вырастаюць магчымыя варыянты будучыні, і як карані прарастаюць варыянты мінулага.

**Чатыры сцэнары**

Па якім сцэнары жыла беларуская мадэль у мінулым годзе? Колькі людзей — столькі і меркаванняў. Але, каб спрасціць пошукі адказу, я прапаную набор найбольш верагодных сцэнарных варыянтаў: крызісны, інерцыйны, кансерватыўны і мадэрнізацыйны.

Які сцэнар афіцыйна дэкларуецца? Адказ на гэта пытанне знойдзем у перадвыбарчай праграме адзінага палітыка (АП) узору 2015 года. Прывяду ключавыя цытаты: «Нам нельга страціць тое, што ўжо дасягнута». «Перш за ўсё мы павінны абараніць тое, што ўжо створана». «Што маем — не захоўваем, страціўшы — плачам», — так кажа народная мудрасць».

Выбар на карысць кансерватыўнага (ахавальнага) сцэнару відавочны. Праз тры месяцы ў навагоднім віншаванні ён быў дапоўнены падрабязнасцямі, якія палохалі: стары парадак руйнуецца, ідзе новы перадзел свету, і ў гэтай «абстаноўцы мы яшчэ вастрэй адчуваем велізарную каштоўнасць спакою, міру і згоды ў нашай краіне. На вялікае шчасце, нам удаецца зберагчы Беларусь ад войнаў, тэрарызму і ўнутранай смуты».

Вось такая цяперашчына сучаснасці. Калі з усіх правоў чалавека актуальным становіцца толькі права на жыццё, тады згадкі трохгадовай даўніны пра мадэрнізацыю і асцярогі «застацца на ўзбочыне гісторыі» пачынаюць успрымацца як блюзнерства.

Так, на ўзбочыне, але жывыя! І няхай «сучасная цывілізацыя — гэта цывілізацыя пастаяннага паскарэння», мы яшчэ паглядзім, куды яе выкіне на чарговым гістарычным віражы. І глядзець мы будзем з Беларусі, якая пад мудрым кіраўніцтвам самі ведаеце каго ў наш дынамічны час застаецца цытадэллю «традыцыйнай культуры і маралі».

Але не ўсё, што ў палітыцы дэкларуецца, атрымліваецца рэалізаваць на практыцы. Калі замест абяцанага, няхай і нязначнага росту даходаў насельніцтва назіраецца іх устойлівае падзення, дык ці не сведчыць гэта пра фактычную рэалізацыю крызіснага сцэнару?

Кансерватыўны сцэнар ва ўмовах істотнага пагаршэння знешняй кан'юнктуры можа запатрабаваць ад кіраўніцтва краіны нестандартных рашэнняў не ў меншым аб'ёме, чым сцэнар мадэрнізацыйны. Аднак з упартасцю, вартай лепшага прымянення, АП працягвае паўтараць пра нязменнасць першапачатковага курсу, рашуча спыняючы пры гэтым любыя рэфарматарскія ініцыятывы ўрада.

Такім чынам, фактычна мы маем інерцыйны сцэнар з высокімі шанцамі трансфармацыі ў сцэнар паўнавартаснага сістэмнага крызісу.

**Кожнаму па 500**

Лістапад запомніўся нечаканым вяртаннем да народа тэмы сярэдняга заробку ў 500 долараў. Чым скончылася першая яе рэалізацыя, мяркую, беларусы яшчэ не забылі. Калегі па аналітычным цэху, натуральна, пачалі ацэньваць шанцы рэалізацыі чарговай ініцыятывы АП.

Нагадаю, даручэнне пра выхад на сімвалічную адзнаку было агучана 14 лістапада ў час рабочай паездкі АП у Магілёў. Цытую: «Я не кажу, што павінны плаціць незаробленыя грошы. Ні ў якім разе. Інакш мы вернемся да таго, з чаго пачыналі два гады таму. Мы павінны стымуляваць, падштурхоўваць кіраўнікоў прыватных і дзяржаўных прадпрыемстваў да таго, каб мы да 500 долараў наблізіліся. Трэба людзей падтрымліваць, што б там ні было».

Рэкамендую ўважліва перачытаць цытату. У пачатку АП перасцерагае ад выплаты незаробленых грошай. Але заканчвае тым, што пастаўленая задача павінна быць выканана «што б там ні было».

Праз тры дні на прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў расійскіх рэгіянальных СМІ АП быў максімальна канкрэтны: «Памерці, але выйсці на 500. Я буду рабіць усё, каб мы выйшлі на 500».

Каму канкрэтна трэба будзе памерці, ён не ўдакладніў. Ад сябе дадам, што апошняе абавязацельства ў афіцыйныя тэксты не патрапіла. Яно адсутнічае на сайце АП, няма яго і ў тэксце, апублікаваным у «Савецкай Беларусі».




Павышаць заробкі АП плануе за кошт росту прадукцыйнасці працы. Нічога асабліва беларускага ў гэтым няма. Так робіць увесь свет, інвестуючы штогод трыльёны долараў у новае абсталяванне, тэхналогіі і павышэнне кваліфікацыі работнікаў. Сучасны эканамічны рост — гэта рост інавацыйны. Як тут ні прыгадаць манцёра Мечнікава: «Раніцай грошы — днём крэслы, днём грошы — увечары крэслы...» Можна і наадварот. «Але грошы наперад!»

За студзень-кастрычнік 2016 года выдаткі на набыццё машын, абсталявання і транспартных сродкаў скараціліся ў Беларусі на 24,3%. Годам раней за аналагічны перыяд скарачэнне склала 26,6%. Доля інвестыцый у ВУП апусцілася да 18%. З такім паказчыкам ні адна нацыянальная эканоміка яшчэ не расла.

Але беларускай мадэлі астатні свет не ўказ. Рост прадукцыйнасці працы будзе забяспечаны за кошт падштурхоўвання і падсцёбвання кіраўнікоў. У поўнай адпаведнасці з канстытуцыйнай роўнасцю ўсіх формаў уласнасці (артыкул 13) кухталямі ды бізуном плануецца стымуляваць у роўнай ступені кіраўнікоў як прыватных, так і дзяржаўных прадпрыемстваў…

*(Скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

ТРАГІЧНЫ ВЫПАДАК

# «Я НІКОЛІ НЯ БЫЎ ДАРМАЕДАМ»…

**3 кастрычніка 60-гадовы Айвар Яскевіч заплаціў 360 рублёў падатку за «дармаедзтва». 6 сьнежня ён выкінуўся з 5 паверху, з сваёй кватэры ў Асіповічах. На стале пакінуў запіску і квітанцыю пра сплату «дармаедзкага падатку».**

«Там было напісана: «Я ніколі ня быў дармаедам, гвалтаўніком, рабаўніком, я ўсё жыцьцё сумленна працаваў», — жонка Галіна кажа, што гэтыя словы запомнілася ёй найбольш.

З Галінай мы размаўляем у яе дома. У Яскевічаў сьціплая кватэра на апошнім паверсе панэльнага дому. Галіна трымае ў руках тэчку з дакумэнтамі — тут працоўная кніжка Айвара, пэнсійнае пасьведчаньне, пасьведчаньне вэтэрана працы, падзячныя лісты.

«Столькі дакумэнтаў, а цяпер вось гэта — галоўны дакумэнт», — кажа яна, паказваючы пасьведчаньне пра сьмерць. Тут жа ў тэчцы і паведамленьне аб прызнаньні Айвара «дармаедам», і квітанцыя, якая пацьвярджае, што падатак у 360 рублёў ён заплаціў.

Айвар Яскевіч — карэнны асіпаўчанін. Імя яму даў бацька ў гонар доктара, які выратаваў яго ў вайну. Пра выпадак з мужам, апавядае Галіна, гудуць усе Асіповічы. Кажа, што нават на памінках яго згадвалі як вельмі вясёлага і жыцьцярадаснага чалавека.

«Ён такі чалавек быў, ведаеце, нікога не пакідаў убаку, — распавядае яна. — Вельмі зычлівы з усімі. З усімі павітаецца, спытае, як маюцца, як жыцьцё».

У Айвара 34 гады працоўнага стажу. Незадоўга да пэнсіі ён звольніўся з КРЗ (так у Асіповічах па звычцы называюць кардонна-рубэроідавы завод. Цяпер гэта прадпрыемства «Тэхнаніколь»). Там ён адпрацаваў 30 гадоў.

«Стасункі з начальствам былі ня вельмі добрыя. Ён напісаў заяву пра звальненьне — ганарлівы быў. І з траўня 2014-га не працаваў, — апавядае Галіна. — Мы спрабавалі ўладкавацца, але год да пэнсіі заставаўся — нідзе не хацелі яго браць... І вартаўніком хацелі, але нідзе ня бралі. Месяц, відаць, адпрацаваў апэратарам кацельні», — тлумачыць Галіна.

У красавіку Айвару споўнілася 60 і ён стаў пэнсіянэрам. А ўвосень атрымаў паведамленьне, што дзяржава прызнала яго дармаедам.

«Ён сабраў дакумэнты — пэнсійнае пасьведчаньне, працоўную кніжку, кажа: „Пайду ў падатковую, усё гэта пакажу", — Галіна згадвае апошнія месяцы жыцьця мужа. — Прыходжу з працы, пытаюся: „Айвар, ты быў?". Ён адказвае: „Быў, нічога не заплаціў, маўляў, сказалі — які вы дармаед". Гэта ён сябе так супакойваў».

Жанчына кажа, што пра такую трагедыю яна не магла нават падумаць. «Гаварыў, што „вось высакосны год, як бы мне яго дажыць", — кажа Галіна. — У яго была вельмі моцная дэпрэсія, асабліва апошні месяц. Ён калі сышоў з КРЗ, дзе адпрацаваў 30 год, вельмі моцна здаў — і сьпіна, і ціск, раздражнёны стаў. Мы ўжо і на прагулкі зь ім хадзілі, я яго супакойвала. Але нічога не прарочыла, каб вось так скончыць жыцьцё».

Нават у той дзень, 6 сьнежня, муж паводзіўся як звычайна, і яна нічога не адчула. Галіна працуе настаўніцай пачатковых клясаў у мясцовай школе. У яе 29 гадоў стажу, і яна ўжо таксама зьбіралася на пэнсію па выслузе гадоў. Але праз падвышэньне пэнсійнага ўзросту яшчэ будзе працаваць.

«Праводзіў мяне, дзьверы зачыніў, спытаў: „Калі будзеш?". Я і падумаць не магла, — згадвае яна. — Вось гэтая квітанцыя, гэты падатак яго падштурхнулі да гэтага кроку. Калі б я яшчэ была дома... Але спыніць не было каму», — апавядае жанчына.

«З працай лягчэй. Дахаты не хачу прыходзіць, — тлумачыць яна. — Цяжка».

Галіну Пятроўну прыйшла падтрымаць яе калега і сяброўка Аксана. Яна кажа, што «трагедыя ўскалыхнула ўвесь горад».

«Мы ведаем, што мужчына пакінуў запіску, у якой напісаў, што ў жыцьці ён не дармаед, і пакінуў квітанцыю пра сплату падатку за дармаедзтва. Чалавек усё жыцьцё адпрацаваў, да пэнсійнага ўзросту, выйшаў на пэнсію, атрымаў званьне вэтэрана працы, усё жыцьцё добрасумленна працаваў, — кажа Аксана. — І замест таго, каб жыць далей, карыстацца тым, што ён зарабіў, ён сышоў з гэтага жыцьця».

Аксана апавядае, што і ў яе сям'ю прыйшло паведамленьне пра «дармаедзтва». Яго атрымала 22-гадовая дачка. «Ёй 22 гады. Яна цяпер працуе. І ўвогуле працуе з 15 гадоў, — кажа Аксана. — Падатак яна мусіць плаціць у сувязі з тым, што ў 2015 годзе працавала менш за 183 дні». Дзяўчыну тады звольнілі з працы, і пэўны час яна шукала працу, якая ёй падабаецца. — «І мы мусілі заплаціць 150 рублёў. Я перажывала, вось Галіна Пятроўна ведае. Для мяне гэта было балюча».

Жанчына доўга разважае, якія добрасумленныя і працавітыя беларусы. «Мы маладая эўрапейская дзяржава. У якой дзяржаве Эўропы яшчэ такое ёсьць? — пытаецца Аксана. — Закон абсалютна не прадуманы... У такіх умовах, калі дзяржава ня можа забясьпечыць людзей годнай працай, уводзіць падатак на дармаедзтва — гэта неабдуманы крок».

Аксана ўспамінае Айвара як усьмешлівага і прыязнага чалавека. «Высокі, прыгожы... Гэта быў шок, — кажа Аксана. — Гэта крок у нікуды. І гэты крок яму дапамагла зрабіць дзяржава».

Галіна Пятроўна кажа, што на працы ёй лягчэй перажываць гора. Быць дома ўсё яшчэ цяжка. Апавядае, што хоча атрымаць ад сьледчага хаця б копію запіскі, якую пакінуў яе муж.

«Я двойчы ўжо ў падатковую хадзіла, — са сьлязьмі кажа яна. — Думала, можа грошы гэтыя вернуць, 360 рублёў. Яны скапіявалі гэтыя дакумэнты, але — нічога. Нідзе праўды не дабіцца. Кажуць, такі закон».

**"Радыё Свабода"**

НАВАЦЫЯ Ў АДУКАЦЫІ

# «УЧЕБЫ НЕ БУДЕТ НИКАКОЙ…»

**Учитель и психолог прокомментировали изменения в Кодексе об образовании, которые затронут многих белорусов. Дети смогут идти в первый класс с пяти лет, а наполняемость классов увеличат до 30 учеников. Соответствующие изменения планируют внести в новую редакцию Кодекса об образовании. Как это повлияет на качество образования, анализируют эксперты Завтра твоей страны.**

**«Неопытных и неумелых учителей много. Куда им еще тридцать детей в класс?»**

Наполняемость классов в тридцать человек учитель гимназии Анна Северинец называет «преступлением против человечества».

— Учебы не будет никакой. Сильнейшие, конечно, выживут, слабейшие потеряют последний шанс научиться чему-то в рамках общей школы, — прогнозирует учительница.

Возможно, авторы этой поправки вспоминали свое школьное детство, когда в классах сидели и по 35, и по 40 учеников.

— Но тогдашние дети, с их советской выправкой, коллективным самосознанием, умением самоуничижаться перед взрослыми еще могли учиться в таких диких условиях. Сегодняшние дети этого уже не умеют — и слава Богу, — говорит Анна Северинец.

В наше очень индивидуализированное время, когда у многих детей уже свои комнаты, свои рабочие места дома, когда уходит необходимость отстаивать толпами очереди ради каких-то благ, бессмысленно надеяться, что можно научить чему-нибудь 30 индивидуальностей скопом.

В классе, где учится старший ребенок психолога и медиатора Олеси Пономаренко, 32 человека.

— Учитель говорит, что работать очень тяжело, потому что всем внимание уделить не удается. Учебный процесс строится исходя из того, что учитель должен уделить внимание как успевающим детям, так и тем, кто отстает. Увеличение количества детей в классе только усугубит эту ситуацию, — считает психолог.

Эксперт полагает, что в итоге укрупнение классов негативно скажется и на успеваемости, и на заинтересованности детей, которая и без того падает.

— Ребенок идет в школе не только за знаниями. Мотивация — это еще и построение взаимоотношений. Когда учитель не может уделить внимание ребенку, у него падает заинтересованность в том, чтобы ходить в школу, — подводит итог Олеся Пономаренко.

«Сэкономите на школах — разоритесь на тюрьмах»

По мнению Анны Северинец, классы, наоборот, надо серьезно уменьшать.

— Хорошее количество — это 12-15 человек. Это работоспособный коллектив. Большее количество детей в классе вызывает трудности, с которыми не каждый учитель справится. Неопытных и неумелых учителей много. Куда им еще тридцать детей в класс?

Станет ли в белорусских школах меньше учителей-недоучек?

**«Психика пятилетнего ребенка не готова к школе»**

Появившуюся возможность отдавать ребенка в школу с пяти лет Анна Северинец рассматривает как позитивное изменение.

— Это ведь не обязанность, а добрая воля родителя, который видит своего ребенка, знает, на что он способен, сможет ли он легко и комфортно вписаться в школьный режим — почему бы и не дать этой доброй воле выхода? — рассуждает собеседница. — Я сама шла в школу в шесть лет при тогдашнем семилетнем общем пороге, и никаких проблем.

Тут главное не увлечься гонкой за призрачным успехом, а внимательно и доброжелательно следить за развитием собственного ребенка, предупреждает учительница.

Однако психолог Олеся Пономаренко считает, что детская психика к пяти годам не готова к учебному процессу.

— В школе нужны самоорганизованность и взаимодействие в социуме, — подчеркивает эксперт.

По мнению Олеси Пономаренко, психика пятилетнего ребенка не готова к школе, и поход в первый класс в этом возрасте может привести к развитию заболеваний.

— Ребенок может стать тревожным, плохо спать. Его психика может не справиться с задачей, которую на него возлагают. Как результат — это скажется не только на успеваемости, но и на общем психофизиологическом уровне.

Специалист не советует родителям отдавать детей в школу с пяти лет.

—Большинство детей готово к школе ближе к семи годам. Хотя бы в шесть с половиной, — говорит Олеся Пономаренко.

**Мария Владимирова**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 30.01.2017 у 17.45** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.